# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№4 (263)
красавік 2024

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”

**У НУМАРЫ:**

## У Мінесоце будзе створаны Беларускі грамадска-культурны цэнтр

У ЗША стане на адну беларускую прастору больш. Беларусы Мінеапаліса набылі сабе ва ўласнасць будынак. Прыблізная плошча памяшкання – 10 000 квадратных футаў, ці каля 929 квадратных метраў. Будынак двухпавярховы і знаходзіцца непадалёк ад даўнтаўну Мінеапаліса. Там плануецца стварыць апартаменты для часовага пражывання ўцекачоў з Беларусі, канферэнц-залу, каворкінг, офісы і цэнтр прыёму і адпраўкі гуманітарнай дапамогі.

Старонка 3






# КНІЖНАЙ СЕРЫІ “БІБЛІЯТЭКА БАЦЬКАЎШЧЫНЫ” – 20 ГАДОЎ

Кніжная серыя “Бібліятэка Бацькаўшчына”, заснаваная Згуртаваннем беларусаў свету “Бацькаўшчына” ў 2004 годзе, сёлета адзначае 20-гадовы юбілей. Серыя стваралася з мэтай папулярызацыі ведаў пра беларускую дыяспару, што ў святле вялікай новай хвалі эміграцыі пасля 2020-га зрабілася яшчэ больш актуальным.

Яшчэ ў 2004 годзе патрэба ў гэтай серыі наспела ў сувязі з тым, што тэма беларускай дыяспары была слаба даследавана ў Беларусі. Амаль траціна нашай нацыі жыве па-за межамі краіны. Многія беларусы, з’ехаўшы з краіны, не перарывалі з ёй повязь: засноўвалі беларускія асяродкі, школы, цэрквы. Яны не толькі захоўвалі і захоўваюць сваю беларускасць, але з’яўляюцца іміджавымі цэнтрамі Беларусі ў краінах свайго пражывання. Але ў самой Беларусі іхны ўнёсак у развіццё беларускай нацыі заставаўся малавядомым.

Таму часткова ролю па вывучэнні гісторыі і сучаснасці беларускай дыяспары ўзяло на сябе “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”, заснаваўшы серыю “Бібліятэка Бацькаўшчыны”. Кнігі серыі – спосаб зрабіць беларускае замежжа бліжэйшым для суайчыннікаў у Беларусі і новых эмігрантаў, даць магчымасць навукоўцам і проста зацікаўленым асобам атрымаць інфармацыю па гісторыі, літаратуры, адукацыі, друку і іншых аспектах жыцця беларусаў у розных краінах свету.

За гэты час у межах серыі выйшла каля 50 кніг: архівы, мемуары, дакументы, успаміны, выбраныя мастацкія творы.

Некаторыя даступныя ў Беларусі кнігі можна купіць тут:

навіны

# У СТАКГОЛЬМЕ СТАВЯЦЬ П'ЕСУ ПА КНІЗЕ ДЗМІТРЫЯ ПЛАКСА ПРА ЗАБІТАГА СЫНА

Якаб Хірдваль, драматург і загадчык літаратурнай часткі Каралеўскага драматычнага тэатра ў Стакгольме, перастварае ў п'есу кнігу "Пётр" Дзмітрыя Плакса пра свайго сына, жорстка забітага аднагодкам ва ўзросце 16 гадоў. Прэм'ера адбудзецца 30 жніўня ў тэатры "Арыён".

Пяць гадоў таму на шаснаццацігадовага Пятра Плакса сспланаваў і здзейсніў нематываваны напад ягоны сябра-аднагодак, які пакутаваў на псіхічны разлад. Дзмітрый Плакс дагэтуль цяжка перажывае смерць сына. Цяжкі маральны стан бацькі ледзьве не стаў перашкодай на шляху ўвасаблення кнігі "Пётр" у п'есу "Пётр: час", бо вядомы драматург і пастаноўшчык Якаб Хірдваль, якому Дзмітрый Плакс прапанаваў свой тэкст, асцерагаўся паглыбіць псіхічную траўму апошняга.



Дзмітрый Плакс і Якаб Хірдваль

Тэатральная адаптацыя будзе ўяўляць з сябе гісторыю пра бацьку, які сумуе па сваім дзіцяці і намагаецца захаваць яго жыццё, узгадваючы пра яго ўсё, што толькі магчыма. "А гэта азначае, – кажа Якаб Хірдваль, – што п'еса парадаксальным чынам будзе ўтрымліваць шмат святла, цеплыні і гумару".

"Я таму і звярнуўся да Якаба, бо ведаў, што ён усё правільна зразумее", – каментуе такую інтэрпрэтацыю Дзмітрый Плакс.

Акрамя таго, што аўтары разам выбіралі актора Андрэаса Лільхольма, які будзе граць Дзмітрыя ў п'есе, больш ніякага ўдзелу ў пастаноўцы спадар Плакс не бярэ, цалкам давяраючыся рэжысёру.

Паводле dn.se




С. Плыткевіч

# У ТАЛАЧЫНЕ АДКРЫЛІ ПАМЯТНУЮ ДОШКУ Ў ГОНАР БЕЛАРУСКАГА МАСТАКА ЛЯВОНА БАРАЗНЫ

У Талачыне, на хаце, у якой з 1936-га да 1945-га года жыў знакаміты беларускі мастак Лявон Баразна, з'явілася памятая дошка. Пра адкрыццё памятнай дошкі ў гонар мастака паведамляе Сяргей Плыткевіч на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

З'яўленне памятнай дошкі стала магчымым дзякуючы ініцыятыве мясцовага краязнаўцы Змітра Іўчанкі.

"А ён зацікавіўся земляком пасля выставы Лявона Баразны, да арганізацыі якой спрычыніўся мастак Мікола Купава", – дадае Сяргей Плыткевіч.

Мемарыяльная выстава, у якой прадстаўлены, у тым ліку, працы Лявона Баразны ранейшага перыяду, зараз праходзіць у Талачынскім краязнаўчым музеі.

***

Лявон Баразна – беларускі мастак, даследчык дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, актывіст захавання гісторыка-культурнай спадчыны. У жніўні 1972 гога быў забіты ў цэнтры Мінска пры нявысветленых абставінах.

Вось, што пісаў у 2013-м годзе пра тыя трагічныя падзеі сябар Лявона Баразны Зянон Пазняк:

"15 жніўня 1972 года яго забілі ў цэнтры сталіцы, як стала зразумела, у выніку распрацоўкі савецкага КГБ па барацьбе з беларускім нацыяналізмам. Забойцы – два браты-крымінальнікі, расейцы, дзеці палкоўніка КГБ, які займаўся аховай Дому ўраду. Суд і камуністы ўсяляк стараліся выгарадзіць забойцаў, каб прысудзіць ім меншы тэрмін. Асноўны забойца адмовіўся даваць паказанні і цвердзіў увесь час толькі тры словы: "Я сын Сталіна". Яго гэтаму падвучылі, інакш бы шмат што адчынілася.

Забойства Лявона Баразны ўскалыхнула тады нас усіх. Гэта была вялікая страта для Беларусі. Яго магіла, як і магіла Каліноўскага, і сотняў іншых ахвяраў Масквы, засталася неадпомшчанай, і гэты спіс павялічваецца".

budzma.org

# ЁСЦЬ МАГЧЫМАСЦЬ, КАБ ВАША ДЗІЦЯ Ў ВІЛЬНІ ВУЧЫЛАСЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

З'явілася магчымасць з верасня 2024 года адчыніць яшчэ па адным беларускім класе пачатковай школы ў дадатак да тых, што ёсць у Скарынаўскай гімназіі.

Мяркуецца, што тэрытарыяльна навучанне будзе праходзіць хутчэй за ўсё ў адным з дзіцячых садкоў у раёне Скарынаўскай гімназіі. Навучанне па-беларуску пакуль што будзе для 1-3 класаў.

Што трэба зрабіць бацькам, каб з'явіліся дадатковыя беларускамоўныя класы?

Цягам вясны, а лепей як мага хутчэй:

- Падаць заяўку праз сайт (svietimas.vilnius.lt) у Скарынаўскую гімназію. Калі вы пазначаеце толькі яе адну, то сістэма прымае заяўку аўтаматычна.
- Калі вы хочаце дадаць яшчэ дзве школы (як прадугледжвае форма), то давядзецца падаваць заяўку ў ручным рэжыме праз электронную пошту (mokyklos@vilnius.lt) адзела адукацыі. Справа ў тым, што сістэма не дае падаць заяўку ў школы з рознымі мовамі навучання, а з беларускай мовай у Вільні толькі Скарынаўка.
- Як толькі вы падалі заяўку, запоўніце, калі ласка, форму па qr-спасылцы (справа). Так ініцыятыўная група бацькоў, якая займаецца гэтым пытаннем, зможа даведацца, колькі заявак ужо пададзена ў аддзел адукацыі.

Калісьці Скарынаўская гімназія ў Вільні таксама пачыналася з асобных класаў. Цяпер самы важны і самы складаны этап. Калі назбіраюцца дзеці ў гэтыя першыя класы, далей будзе прасцей пашыраць ініцыятыву і на сярэднія класы. Але калі сёлета не атрымаецца, то пераканаць кіраўніцтва Вільні, што беларусам сапраўды патрэбныя дадатковыя беларускія класы, будзе значна складаней.

У новых класах будзе навучанне па-беларуску з інтэнсіўнай літоўскай.

budzma.org



навіны

# У МІНЕСОЦЕ БУДЗЕ СТВОРАНЫ БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ЦЭНТР

У ЗША стане на адну беларускую прастору больш. Беларусы Мінеапаліса набылі сабе ва ўласнасць будынак. Прыблізная плошча памяшкання – 10 000 квадратных футаў, ці каля 929 квадратных метраў. Будынак двухпавярховы і знаходзіцца непадалёк ад даўнтаўну Мінеапаліса. Там плануецца стварыць апартаменты для часовага пражывання ўцекачоў з Беларусі, канферэнц-залу, каворкінг, офісы і цэнтр прыёму і адпраўкі гуманітарнай дапамогі.




Павел Сакурэц з’яўляецца арганізатарам і асноўным выканаўцам праекту.

**Міхась Чаропка: Вітаю, Павел, і віншую вас з нагоды набыцця будынку. Адразу хачу запытацца пра колькасць беларусаў, якія пражываюць у Мінесоце і Мінеапалісе. Ці вядома вам? І колькі з іх звычайна прымаюць удзел у мерапрыемствах беларускай грамады?**

**Павел Сакурэц:** Я не ведаю, колькі пражывае беларусаў у Мінеапалісе альбо Мінесоце. Магу сказаць прыкладна, што некалькі тысяч. Рускамоўных жыхароў, паводле чутак, тысяч дваццаць або трыццаць, але дакладнай лічбы ніхто не ведае. Можна спадзявацца, што пяць тысяч беларусаў набярэцца.

Наконт удзелу беларусаў у мерапрыемствах – тут залежыць, што мы робім. Калі прыязджала Ляўчук, дык прыйшло сто чалавек. На Купалле сабралася таксама сто чалавек. А калі былі іншыя беларускія артысты – прыходзілі сорак альбо пяцьдзясят чалавек.

**М.Ч.: А як даўно вы вырашылі набыць памяшканне і як праходзіў збор грошай? Як адбываліся пошукі прыдатнага будынку?**

**П.С.:** Насамрэч, мы шукалі будынак ужо гадоў пяць. Увесь час на рынку былі вельмі вялікія кошты. А зараз з’явіўся будынак за чатырыста тысяч, і калі кошт апусціўся да трохсот тысяч, то я вырашыў яго купіць.



Павел Сакурэц

Колькі людзей дапамагалі яго набыць? Прыблізна дзесяць чалавек склаліся па пяцьдзясят даляраў. Што тычыцца астатніх грошай, то я паклаў задатак сто тысяч і яшчэ дзвесце тысяч мне даюць фінансаванне на пяць гадоў.

**М.Ч.: А што ўяўляе сабой будынак? Што там было раней? Якія планы па яго выкарыстанні?**

**П.С.:** Будынак стаяў пусты ўжо некалькі гадоў. Там калісьці былі нейкія офісы. На першым паверсе быў цэх па дрэваапрацоўцы, нешта рэзалі па дрэве.

Што мы плануем зрабіць? Мы жадаем цалкам перабудаваць усё, каб зрабіць сучасныя офісы, каб там быў каворкінг. Таксама ёсць план зрабіць залю для выступаў беларускіх артыстаў, якія прыязджаюць сюды. Але самая галоўная мэта – гэта зрабіць своеасаблівы хаб. Хоць пакуль і невядома, ці ўдасца запрасіць толькі беларусаў, але калі не ўдасца, то частку будынку будзем здаваць амерыканскім кампаніям. Было б выдатна, каб будынак сам за сябе плаціў і ў нас яшчэ заставаліся нейкія грошы. Не ведаю, ці магчыма ўсё гэта, бо галоўным спонсарам з’яўляюся я.

**М.Ч.: І напрыканцы такое пытанне: ці ёсць прыблізны план мерапрыемстваў? Каго плануеце запрашаць на адкрыццё?**

**П.С.:** Плану мерапрыемстваў пакуль няма. Будаўнічыя працы пачнуцца дваццаць пятага красавіка. У залежнасці ад фінансавання, яны могуць заняць ад шасці да васьмі месяцаў. Каб усё зрабіць, неабходна ўкласці яшчэ чатырыста тысяч на рамонт. Таму пабачым, ці буду я браць суду на гэтую суму, бо не хацелася б такія грошы самому выкладаць. Там пабачым.

*

Такім чынам, беларускі цэнтр у Мінеапалісе стане яшчэ адной беларускай кропкай на мапе, разам з грамадска-культурнай залай пры саборы св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, беларускім цэнтрам у Саўт-Рыверы, фундацыяй Крачэўскага ў Куінзе, а таксама шэрагам прыходаў беларускіх цэркваў Нью-Джэрсі і Нью-Ёрку.

**Міхась Чаропка, bielarus.info**

Дапамагчы фінансава:

# ЗАБЯСПЕЧЫМ МЕСЦА СУСТРЭЧ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў САМЫМ СЭРЦЫ БЕРЛІНА!

Дом Статыстыкі ў Берліне стаў непарушным месцам сустрэчы для закаханых у Беларусь і беларускую культуру. Але цяпер ёсць патрэба ў дапамозе, каб забяспечыць яго будучыню.

RAZAM e.V. быў запрошаны стаць часткаю кааператыву і пры гэтым мае шанц падтрымаць гэтае месца, як пляцоўку сустрэч у цэнтры Берліна на доўгія гады. Але патрэбна ваша дапамога, каб здабыць неабходныя сродкі.

Дапамажыце RAZAM e.V. захаваць гэта важнае месца.

Прасцей за ўсё гэта зрабіць праз данат па спасылцы PayPal ці праз перавод на рахунак:

Belarusische Gemeinschaft RAZAM e.V.
IBAN: DE14 4306 0967 1186 2060 00
BIC: GENODEM1GLS
BANK: GLS Gemeinschaftsbank eG
VERWENDUNGSZWECK: HDSGenossenschaft

razam.de



навіны

# КНІГА ВАНДЫ МАРЦІНШ ДУШ РЭЙШ “МАЛАНКІ НАД ВІЛЬНЯЙ” АТРЫМАЛА ПРЭМІЮ МЭРА ВІЛЬНІ

Віленская беларуская паэтка і перакладчыца Ванда Марцінш душ Рэйш атрымала прэмію мэра горада Вільня за кнігу вершаў “Маланкі над Вільняй”.

“Сказаць, што задаволеная – нічога не сказаць. Грамадскую частку сваёй дзейнасці лічу важнейшай за літаратурную, таму гэта “не зусім літаратурная прэмія” асабліва радуе.

Вельмі ўдзячная сваім сябрам з віленскага беларускага клуба “Сябрына”, якія прынялі блудную авечку пасля таго, як вярнулася з-за мяжы і падтрымлівалі на кожным кроку”, – дзеліцца эмоцыямі пісьменніца на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Кніга “Маланкі над Вільняй” выдадзена фондам “Камунікат” у 2023 годзе. Выданне трохмоўнае, у яго ўвайшлі арыгіналы вершаў па-беларуску і пераклады на літоўскую і польскую мовы.

“…Гэта мой падарунак роднаму гораду да 700-годдзя. Ідэя такой кнігі належыла перакладчыцы Альме Лапінскене, яна і пераклала вершы на літоўскую мову”, – пісала аўтарка ў фэйсбуку.

Пераклад на польскую зрабіў віленскі польскі паэт Аляксандр Снежка. Уступ да кнігі напісаў Сяргей Харэўскі.

budzma.org



Ванда Марцінш Душ Рэйш падчас уручэння прэміі

# КНІГА АНДРЭЯ МАЦУКА АТРЫМАЛА ЎЗНАГАРОДУ XXXI КОНКУРСУ “PRZEGLADA WSCHODNIEGO”

Выдадзеная ў 2023 годзе пры падтрымцы ЕГУ кніга беларускага гісторыка, супрацоўніка Цэнтра беларускіх і рэгіянальных даследаванняў Дэпартамента гуманітарных навук і мастацтваў Андрэя Мацука “Павятовыя соймікі ў сацыяльна-палітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага (1697—1764 гг.)” атрымала ўзнагароду XXXI конкурса “Przeglada Wschodniego” (“Усходняга агляду”) для выданняў, выдадзеных за мяжой.




“Przegląd Wschodni” – гэта прэстыжны навуковы часопіс па гісторыі і культуры Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, а таксама Расіі ад Сярэднявечча да сучаснасці, які выдае Цэнтр Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта.

Галоўным рэдактарам выдання з’яўляецца вядомы гісторык і палітолаг, прафесар Ян Маліцкі.

З 1993 года “Przegląd Wschodni” ўзнагароджвае гісторыкаў за найбольшыя дасягненні і найбольш грунтоўныя навуковыя працы з усяго свету па гісторыі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Камісія, што прызнае ўзнагароду, складаецца з вядомых польскіх навукоўцаў, такіх як Ян Маліцкі, Дарота Янішэўская-Якубяк, Лукаш Каміньскі, Гелена Красоўская, Анджэй Рахуба і інш. У 2023 годзе ўзнагароду атрымаў беларускі гісторык Андрэй Мацук за кнігу, якая была падрыхтаваная ў 2020 годзе, але пабачыла свет толькі дзякуючы падтрымцы ЕГУ.

У мінулыя гады сярод лаўрэатаў узнагароды былі вядомыя гісторыкі Генадзь Сагановіч, Давід Фрык, Наталля Якавенка, Яраслаў Грыцак, Арланда Файджэс, Маціяс Нэйндорф, Мікола Крыкун, Наталля Старчанка, Тэадор Уікс, Марэк Ян Хадакевіч, Сяргей Плохій, Цімаці Снайдэр і іншыя.

Кнігу можна знайсці ў бібліятэцы ЕГУ.

be.ehu.lt

# ВЫЙШАЎ ПОЎНЫ ПЕРАКЛАД РАМАНА МОЙШЭ КУЛЬБАКА “ЗЭЛМЭНЯНЕ”

У беларускім выдавецтве “Vesna”, што месціцца ў Празе, выйшаў раман “Зэлмэняне” Мойшэ Кульбака, анонс якога быў яшчэ ў сакавіку.

Новы пераклад – першы поўны пераклад раману на беларускую мову. Пераклад твору з ідыш на беларускую мову зрабіў Сяргей Шупа.

“Нарэшце адбылася падзея, якую мы набліжалі без малага два гады. Культавы менскі раман Мойшэ Кульбака цяпер у поўным беларускім перакладзе”, – напісана на старонцы выдавецтва ў фэйсбуку.

Прэзентацыя кнігі плануецца ў Празе, у траўні кнігу можна будзе купіць на адмысловых імпрэзах ва Уроцлаве, Празе, Вільні і Таліне, а таксама – у варшаўскай “Кнігаўцы” і яе інтэрнэт-кнігарнях.

Зараз кнігу можна замовіць наўпрост ў выдавецтва, напісаўшы на электронную пошту: vesnav@seznam.cz.

budzma.org



навіны

# ВЫСТАВА, ПРЫСВЕЧАНАЯ БЕЛАРУСКАМ У НЯВОЛІ, АДКРЫЛАСЯ Ў МУЗЕІ БЕРЛІНСКАЙ СЦЯНЫ



Пад выставу адведзена адно з 50 выставачных памяшканняў, размешчанае побач са знакамітым КПП "Чарлі" ў Берліне, паведамляе адна з арганізатарак выставы Яўгенія Доўгая на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Яўгенія Доўгая – заснавальніца ініцыятывы дапамогі палітзняволеным жанчынам "Палітвязынка". Да стварэння выставы яе падштурхнула прапанова арт-куратаркі з Украіны.

Турэмную калекцыю з важных рэчаў сабралі за некалькі месяцаў. У яе ўвайшлі, напрыклад, рукавіцы з калоніі, якія сагравалі рукі палітзняволенай, пакуль яна чысціла снег, майка з вышытымі на ёй абдымашкамі і далонькамі сяброў, якую хлопцы даслалі ў СІЗА да дня нараджэння зняволенай дзяўчыне, абутак са шнуркамі, выраблёнымі з пакетаў, зношанае ружовае сукенка, хустка, целагрэйка, спадніца і пінжак з калоніі.

Адна палітзняволеная перадала для выставы сваю белую сукенку, у ёй яна вянчалася ў касцёле, а потым у ёй пайшла на суд, дзе ёй вынеслі абвінаваўчы прысуд.

У экспазіцыі прадстаўлены таксама асабісты дзённік і фатаграфіі, якія жанчыны атрымлівалі ў турмах, паштоўкі ад маленькага сына адной з жанчын. Маюцца і здымкі з жаночых маршаў.

Украінская мастачка Леанора Янко, натхніўшыся гісторыямі беларусак, намалявала акрылам карціну "Сілы дабра".

Экспазіцыя працуе па адрасе Friedrichstraße 43-45.

budzma.org

# ГРАФІЧНАЯ СЕРЫЯ "ПАШТОЎКІ МІНУЛЫХ ЧАСОЎ" БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЧКІ АТРЫМАЛА ПРЭМІЮ Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ




Беларуская мастачка Святлана Дземідовіч, суаўтарка кнігі Насты Кудасавай "Побач", атрымала прэмію на конкурсе ілюстрацый у Вялікабрытаніі. Пра гэта аўтарка паведаміла на сваёй старонцы ў інстаграме.

"Добрыя навіны ад каровак: мая серыя "Паштоўкі мінулых часоў" стала лаўрэатам ілюстратарскага конкурсу Cheltenham Illustration Awards 2023!" – напісала Святлана Дземідовіч.

Прэмія Illustration Awards заснаваная універсітэтам Глостэршыра і праводзіцца пад эгідай Pittville Press. Штогод яна атрымлівае больш за 800 заявак з усяго свету. Адабраныя 60 прац аўтараў з розных краін будуць прадстаўленыя ў некалькіх галерэях і на мерапрыемствах па ўсёй Вялікабрытаніі, уключаючы Лонданскі кніжны кірмаш, а таксама апублікаваныя ў штогодніку Cheltenham Illustration Awards 2023 года, які будзе распаўсюджвацца сярод выкладчыкаў і выдаўцоў па ўсім свеце.

Тэма сёлетняй выставы – "Узаемасувязь", акцэнт зроблены на візуальным аповедзе, які дае прастор уяўленню і паказвае магчымасці за межамі сённяшняга моманту.

budzma.org

# ДЫРЭКТАРКА ФЕСТЫВАЛЮ "ПАЎНОЧНАЕ ЗЗЯННЕ" ВОЛЯ ЧАЙКОЎСКАЯ ЗНЯЛА ПЕРШУЮ ПОЎНАМЕТРАЖНУЮ ДАКУМЕНТАЛЬНУЮ КАРЦІНУ

"Not Made For Politics" – такую назву мае новая дакументальная стужка Волі Чайкоўскай – прадзюсаркі і кіраўніцы фестывалю Паўночных і Балтыйскіх краін "Паўночнае ззянне". Гэта першы поўны метр кінематаграфісткі, над якім яна працавала больш за чатыры гады.

Фільм ствараўся ў капрадукцыі Эстоніі, Францыі і ЗША. Сярод капрадзюсараў заяўлены амерыканскі стрымінгавы сервіс HBO Max.

– З пытанняў бяспекі я пакуль шмат пра гэты фільм не распавядаю, – падзялілася Воля Чайкоўская. – Але для мяне гэтае кіно – вялікая вяха: чатыры гады маёй прадзюсарскай, рэжысёрскай, аператарскай, гукарэжысёрскай працы і курыравання вялікай каманды капрадзюсараў. Гэта каштоўны досвед, часта вельмі складаны, але, безумоўна, пасля якога я магу казаць, што перайшла на новую прыступку.

Больш інфармацыі пра карціну мусіць з'явіцца пасля прэм'еры стужкі на адным з фестываляў. Зараз кіно – на этапе пострадакшану.

"Not Made For Politics" (у фільма пакуль няма беларускай назвы) – не адзіны кінапраект, у які ўключаная Воля Чайкоўская. Як прадзюсарка яна працуе над ігравой стужкай "Mari, Sweetie" эстонскай рэжысёркі Вівіян Садэ (Vivian Säde). Гэтаксама Воля Чайкоўская – у прадзюсарскай камандзе ігравой карціны "War on women" эстонскай кінематаграфісткі Марыс Салюмец (Maris Salumets). У распрацоўцы беларускай фільммэйкеркі і персанальны новы праект – дакументальна-ігравая стужка "Mono".

– Калі шчыра, мне хочацца часам зусім сысці ў творчасць, – прызнаецца Воля, – бо вельмі стамляешся ад менеджменту і адміністрацыйнай працы. Аднак той жа прадзюсарскі



досвед – вельмі каштоўная рэч, гэтыя навыкі – тое, у чым мае асаблівую патрэбу беларускае кіно. Таму прыходзіцца ўсё сумяшчаць.

Паглядзець дэбютны кароткі метр Волі Чайкоўскай можна тут.

reform.by

навіны

# 30-Ю АЛІМПІЯДУ ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ Ў ПОЛЬСКІХ ШКОЛАХ ПРЫСВЯЦІЛІ ТВОРЧАСЦІ УЛАДЗІМІРА АРЛОВА

Унікальны філалагічны конкурс (такога ў Польшчы не мае ніводная нацыянальная меншасць!) ладзіць кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Галоўныя асяродкі, у якіх праходзіць алімпіяда – гэта ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім і Беластоку. Зрэшты, падаць заяўку можа вучань абсалютна любой польскай школы.

Традыцыйна конкурс ладзіцца ў тры этапы. Першы – школьны. За ім праходзіць акругоры тур і, нарэшце, адбываецца трэці, цэнтральны этап. Яго ўдзельнікаў – а гэта 14 фіналістаў і 3 лаўрэаты – і віталі ў сярэдзіне красавіка на кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта.

Маладыя людзі прыехалі ў Варшаву атрымаць дыпломы і каштоўныя падарункі. Разам з універсітэцкімі выкладчыкамі іх прывітаў і беларускі пісьменнік Уладзімір Арлоў, творчасці якога было прысвечана юбілейнае філалагічнае спаборніцтва.

Вядомы аўтар выступіў перад школьнікамі з натхняльнай лекцыяй, распавёў пра свае дзіцячыя мары, расказаў, як нараджаліся яго творы і цэлыя кнігі і прачытаў фрагмент свайго легендарнага эсэ "Незалежнасць – гэта…". Вучні ж у сваю чаргу задавалі пісьменніку цікавыя пытанні і атрымлівалі на іх шчырыя змястоўныя адказы.

– Вы ведаеце, я той літаратар, якому трэба зваротная сувязь з чытачамі, – падзяліўся пісьменнік уражаннямі ад сустрэчы. – І тут якраз былі мае чытачы, бо сёлетняя алімпіяда была заснаваная на вывучэнні маіх кніг.

**– Вам сёння задавалі нямала цікавых пытанняў. Цікавіліся, напрыклад, як бы вы апісалі сваю творчасць у трох словах.**

– А я адказаў у чатырох: "Мая радзіма – беларуская мова". Увогуле, у мяне ёсць кніга "Пакуль ляціць страла. 100 пытанняў пісьменніку". Магчыма, я напішу яе працяг, і адно з сённяшніх пытанняў абавязкова там з'явіцца!

Кожнаму з фіналістаў пісьменнік падпісаў кнігу "Ордэн белай мышы", а лаўрэаты конкурсу атрымалі ў падарунак "Каханка яе вялікасці". "Таму што каханне – гэта наймагутнейшая крыніца натхнення ў любой сферы чалавечай дзейнасці", – тлумачыць аўтар. Асобнік за яго асабістым подпісам атрымаў і галоўны герой імпрэзы – пераможца алімпіяды **Ілля Рой**. Малады чалавек вучыцца ў другім ліцэі ў Бельску-Падляшскім.



Беларускі пісьменнік Уладзімір Арлоў чытае лекцыю для фіналістаў і пераможцаў Алімпіяды па беларускай мове ў Польшчы

– У мяне былі некаторыя сумневы наконт першага месца, але я ўсё ж такі верыў, што я яго займу. І таму, калі даведаўся пра перамогу, вельмі радаваўся.

**– Падрыхтоўка да алімпіяды – гэта заўсёды новыя веды і адкрыцці. Што натхніла?**

– "Айчына" Уладзіміра Арлова – гэта самая цікавая гістарычная кніга, якую я чытаў у жыцці. Увогуле, я даведаўся вельмі шмат цікавостак пра беларускую культуру, беларускіх пісьменнікаў, паэтаў. Часамі было даволі цяжка, асабліва на трэцім этапе, таму што было вельмі шмат матэрыялаў для падрыхтоўкі.

Выдатна справіўся з задачай і вучань Гайнаўскага ліцэя **Юльян Раманюк**. У яго – другое месца.

– Я вельмі задаволены вынікам, я дасягнуў таго, чаго вельмі хацеў – тытулу лаўрэата. І я вельмі шчаслівы, што мая работа не змарнавалася і зараз я не буду пісаць матуру па беларускай мове (выпускны экзамен – рэд.).

Уражаннямі ад перамогі малады чалавек дзеліцца на выдатнай беларускай мове з прыгожым падляшскім акцэнтам:

– Мае дзяды размаўляюць "пасвоему", мама размаўляе "па-своему". Разам з маім бацькам яна таксама вучыліся ў Гайнаўскім беларускім ліцэі, яны пазналіся на Купалле, любяць усё беларускае. І я таксама вельмі люблю беларускую мову, беларускую культуру, ад малодшых гадоў езджу на "Басовішча".



Ілля Рой, вучань Другога Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім



Юльян Раманюк, вучань Гайнаўскага агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мовы

Старшыня навуковага камітэта алімпіяды кандыдат філалагічных навук **Вольга Трацяк** падкрэслівае, што Алімпіяда па беларускай мове мае ў Польшчы высокі статус і прыносіць лаўрэатам шмат карысці:

– Гэта стыпендыі, ільготы пры паступленні і нават магчымасці бясплатнага навучання ў самых прэстыжных прыватных ВНУ.

Падрыхтоўка да конкурсу – грунтоўная і вельмі сур'ёзная. Менавіта таму на алімпіядзе адзначаюць поспехі не толькі вучняў, але і іх настаўнікаў. І гэта – яшчэ адна прыгожая традыцыя спаборніцтва, якое кафедра ладзіць з 1994 года.

Падтрымаць сваіх вучняў у Варшаву прыехала **Ганна Бжазоўская**. Для настаўніцы з ліцэя ў Бельску-Падляшскім гэта ўжо дваццатая па ліку алімпіяда:

– Я пенсіянерка і выйшла на працу па просьбе дырэктара, каб падрыхтаваць вучняў да алімпіяды.

**– І які вынік?**

– Мой Ілля заняў першае месца, маю яшчэ 6 фіналістаў у першай дзясятцы.

**– Выдатна! У Бельск цяпер – з цэлым россыпам узнагарод?**

– Калісьці я сама скончыла там беларускі ліцэй, пасля вучылася на беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце, працавала ў беларускім грамадска-культурным таварыстве, а ў 1994 годзе вярнулася ў школу. Дзеці, дарэчы, заўсёды ўдзячныя, што вучыліся ў такіх школах. І нават калі яны не звязваюць сваё жыццё з беларускай мовай, то заўсёды з цеплынёй ўспамінаюць гэтую навуку.

Нагадаем, з 1994 года Алімпіяду па беларускай мове ў Польшчы праводзіць кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Сёння гэта адзінае па-за межамі Беларусі месца, дзе можна атрымаць вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці "беларуская філалогія".

А.С., Budzma.org

навіны

# ЯК САВЕЦКІ ДЫПЛАМАТ РАСПАЎСЮДЖВАЎ "ПАГОНЮ" ЗА МЯЖОЙ

Да рызыкоўнай супрацы з беларускай эміграцыяй яго падштурхнула пагардлівае стаўленне расейцаў.

Справа мела месца ў 1980 годзе, калі беларуская інтэлігенцыя таемна адзначала сімвалічнае "Тысячагоддзе Беларусі". Адзначыць юбілей прапанаваў гісторык Мікола Ермаловіч.

У 9-м нумары літаратурнага часопіса "Нёман", які на той момант выходзіў накладам 140 000 асобнікаў, Ермаловіч надрукаваў артыкул з нагоды памятнай даты. Гісторык выбраў гэтую дату, абапіраючыся на першыя згадкі ў "Аповесці мінулых часоў" пра полацкага князя Рагвалода і тураўскага князя Тура, датаваныя 980 годам. Пры гэтым сам Полацк у тым жа летапісе згадваецца пад 862 годам.

Як у сваім 16-томным дзённіку адзначаў Барыс Мельнікаў, Мікола Ермаловіч звяртаўся да дэпутата Вярхоўнага Савета СССР і старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Максіма Танка з просьбай нейкім чынам адзначыць гэтую дату, аднак той яму нават не адказаў.

"І ўся Беларусь маўчыць, як быццам ёй заняло гістарычную памяць…" – засведчыў абурэнне гісторыка аўтар дзённіка.

Тым не менш артыкул быў заўважаны ў самой Беларусі і абудзіў да дзеяння. Група мастакоў пачала рыхтавацца да адзначэння юбілею, ішла карпатлівая арганізацыйная і падрыхтоўчая праца, абмяркоўвалі праграму і месца святкавання, рыхтавалі юбілейную сувенірную прадукцыю.

Мастакі Яўген Кулік і Мікола Купава стварылі прыгожыя віншавальныя паштоўкі, якія салідным накладам патаемна аддрукавалі на "На Паддашку", які ўтварыўся вакол майстэрні Куліка. Друкавалі з дапамогай звычайнага прэсу для выціскання соку.

Маладая мастачка Тамара Васюк зрабіла тыраж юбілейных керамічных медалёў, мастак Уладзімір Крукоўскі стварыў плакат.

Як прыгадваў Крукоўскі, гатовыя віншавальныя паштоўкі рассылаліся для падтрымкі духу нацыянальна свядомым ці хаця б зарыентаваным дзеячам культуры, навукі, мастацтва.

Вінцук Вячорка ж успамінаў, што ім, маладым, уручылі па 2-3 такія паштоўкі, якія натхнілі іх на выраб сваёй мастацка-асветнай прадукцыі: разам са знаёмым Сяргея Дубаўца яны масава вырабілі лінарыт з выявай Вітаўта, які друкаваўся на бясплатна здабытым цвёрдым абгортачнага колеру кардоне.

### Дыпламатыя

Невядома якімі шляхамі, але паштоўкі трапілі да савецкага дыпламата Аляксея Каўкі. Каўка нарадзіўся на Ігуменшчыне і будаваў, здавалася, тыповую для савецкай наменклатуры кар'еру. Пачынаў з камсамольскай дзейнасці, трапіў у Цэнтральны камітэт ВЛКСМ, дзе курыраваў польскі кірунак. У 1971 годзе скончыў партыйную Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Доўгі час працаваў у Акадэміі навук СССР, але пасля стаў прадстаўніком Саюза савецкіх таварыстваў дружбы і культурных сувязяў з заграніцай.

Здавалася б, чалавек абсалютна добранадзейны і адданы партыі.

Але, відаць, доўгая праца на чужыне, пастаянныя кантакты з замежжам і знаёмства з рэаліямі жыцця па-за СССР абудзілі ў ім выразнае адчуванне нацыянальнай прыналежнасці, незадаволенасць той культурнай палітыкай, якая праводзілася ў Беларусі. Яшчэ ў 1977 годзе Аляксей Каўка напісаў "Ліст да рускага сябра" ("Письмо к русскому другу"), дзе выкрываў каланіяльную залежнасць Беларусі і асіміляцыйную культурную палітыку.




Чырвоная паштоўка з "Пагоняй", створаная ў Беларусі Міколам Купавам і выдадзеная ў Лондане

Спачатку гэты твор ананімна распаўсюджваўся па СССР.

У 1979 годзе Каўка быў прызначаны дарадцам пасольства СССР у сацыялістычнай Польшчы. Наяўнасць дыпламатычнага пашпарта адкрыла перад ім новыя магчымасці. З яго дапамогай ён здолеў перадаць свой "Ліст" у Вялікабрытанію, дзе тамтэйшыя беларусы ацанілі яго важнасць і смеласць аўтара, пераклалі на англійскую мову.

З'яўленне гэтага твора мела вялікі розгалас на Захадзе, яго цытавалі ў беларускай і ўкраінскай службах "Радыё Свабода", а таксама ў беларускім, украінскім, польскім і рускім эміграцыйным друку. "Ліст" называлі адным з найлепшых самвыдатаўскіх твораў.

Аўтара савецкія спецслужбы так і не змаглі знайсці. Як пазней адказваў Каўка на пытанне, чаму яго не знайшлі: "Бо я нікому пра гэта не казаў".

І вось у 1980 годзе Аляксей Каўка зноў скарыстаўся сваімі магчымасцямі, якія даваў яму дыпламатычны статус, і перадаў за мяжу паштоўкі, прысвечаныя 1000-годдзю беларускай дзяржаўнасці. Пры перадачы малюнкаў у Вялікабрытанію Каўка сказаў: "Перадайце ў Лондан. Яны там будуць ведаць, што з гэтым рабіць".

Як прыгадваў Алесь Нешчарда, айцец Аляксандр Надсан яму распавядаў, што прывёз чырвоную паштоўку з Жэневы. Па дарозе да Лондана ён сустрэўся ў Парыжы з беларускім мастаком Міколам Паўлоўскім, які ў свой час папрасіў прытулку на Захадзе. Паўлоўскі ўпэўнена сказаў, што пазнае ў паштоўках руку Міколы Купавы. Крыху пазней тым жа шляхам у Лондан трапіла і белая паштоўка.

Паводле слоў айца Надсана, праз Жэневу ў канцы 1970-1980-х былі атрыманыя тэксты "Ліста да рускага сябра" Аляксея Каўкі, "Роднай мовы" Алега Бембеля, ананімны "Сказ пра Лысую гару", а таксама лісты беларускай інтэлігенцыі да Гарбачова. Пра імёны датычных да такой кантрабанды айцец тады змаўчаў, бо лічыў, гаварыць яшчэ зарана.

У Жэневе, як вядома, размешчаны штаб-кватэры шматлікіх міжнародных арганізацый, у тым ліку Еўрапейскага аддзялення ААН, Чырвонага Крыжа, Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Прадстаўніцтва БССР пры Еўрапейскім аддзяленні ААН існавала з 1962 года, магчыма, што датычных да перадачы самвыдатаўскіх твораў за мяжу варта шукаць у яго складзе.

Наступныя спробы Каўкі перадаць нешта за мяжу скончыліся таксама не вельмі добра для аўтараў. Так, манаграфія, перададзеная ў 1985 годзе пры дапамозе гісторыка Юрыя Туронка, што выступаў у Беларускай бібліятэцы ў Лондане з дакладам, каштавала яе аўтару, паэту і філосафу Алегу Бембелю, працы ў Акадэміі навук і партыйнага білета.

Сам Каўка прызнаваўся, што да супрацьстаяння савецкай палітыцы русіфікацыі яго падштурхнула адна з чарговых "застольных" размоваў з расійскім сябрам-філолагам, калегам па міжнароднай дзейнасці ў ЦК ВЛКСМ. У размове пра беларусаў той не без цынізму заўважыў:

"Ну дык вы ж не хахлы (маўляў нашы, крэўныя), на вас можна пакласціся. А калі так даражыце сваёй "моваю", што ж, пакіньце сабе сваё "ў", вымаўляйце "Ўладзімір" замест "Владимир" (маўляў, крыўдаваць не будзем)".

Сёння, пэўна, такія выказванні актульныя не толькі для застольных размоў, але і, натуральна, на больш высокім узроўні. Але ці створыць гэтае сутыкненне з расійскай імперскасцю з памяркоўных беларускіх чыноўнікаў сапраўдных патрыётаў – пакажа час.

nashaniva.com

абвесткі

# БЯСПЛАТНЫ ВАКАЛЬНЫ ГУРТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ ПАЛІТВЯЗНЯЎ АДКРЫЛА ВАКАЛІСТКА IRDORATH РАЗАМ З ГІТАРЫСТАМ ЛЯВОНА ВОЛЬСКАГА

Бэк-вакалістка "Irdorath" і экс-палітзняволеная Юлія Юніцкая разам з гітарыстам Лявона Вольскага Паўлам Трыпуцем адкрыла бясплатны вакальны гурток для дзяцей палітвязняў.

"Я былая палітвязынка. Усё, пра што я думаю, – гэта палітвязні. На жаль, я не магу іх вызваліць. Але ж магу дапамагчы дзецям палітзняволеных. Разам з @pashatriput мы запускаем вакальны гурток, дзе дзеці палітвязняў будуць вучыцца спяваць. Бескаштоўна", – паведаміла Юлія Юніцкая ў сваім інстаграме.

Зарэгістравацца ў вакальны гурток можна па спасылцы.

У снежні 2021 года Юлію Юніцкую прыгаварылі да 1,5 гадоў калоніі па артыкуле аб грубым парушэнні парадку (артыкул 342 КК). У кастрычніку 2022 года вакалістка выйшла на волю.

budzma.org




# ВЫДАВЕЦТВА "СКАРЫНА" РЫХТУЕ ПЕРШЫ БЕЛАРУСКАМОЎНЫ СЛОЎНІК КІНАТЭРМІНАЎ

У выдавецтве "Skaryna Press" хутка павінен выйсці слоўнік кінатэрмінаў на беларускай мове.

Слоўнік кінатэрмінаў мае змяшчаць болей за тысячу артыкулаў:

• прафесійныя і тэхнічныя кінатэрміны (мантаж, кадр, адмысловы эфект);

• жанравыя і відавыя кінатэрміны (вестэрн, дакументальнае кіно, крымі);

• тэрміны кінатэорыі (фотагенія, трансцэндэнтальны стыль);

• звязаныя з кіно агульнаэстэтычныя, філасофскія і сацыялагічныя тэрміны (ідэалогія, кіч, тэндэнцыйны фільм);

• кірункі, плыні і школы з гісторыі кіно (Новая хваля, неарэалізм, Догма'95);

• даведка пра кінапостаць ці слыннае кінамесца (Адэская лесвіца, Кінг Конг, Джэймс Бонд, Дракула);

• назвы кінасупольнасцяў, інстытутаў, часопісаў (Галівуд, Беларусьфільм);

• асноўныя фестывалі і кінаўзнагароды;

• пераклады некаторых размоўных кінажарганізмаў і выразаў з англійскай, польскай, іспанскай і інш. моў.

Галоўная адметнасць слоўніка – яго беларускі характар: тэрмінам з іншых моў даюцца беларускія адпаведнікі і прыводзяцца неабходныя тлумачэнні. У артыкулах шырока выкарыстоўваюцца беларускія прыклады, а вядомыя з'явы разглядаюцца пад беларускім ракурсам і з адпаведнымі акцэнтамі. Нарэшце, слоўнік прапануе новыя тэрміны, яшчэ адсутныя ў профільнай літаратуры, але важныя для асэнсавання сусных відовішчаў ("рытуалы ў кіно", "тэрорнае відэа", "беларыенталізм").

Заўвагі, удакладненні і прапановы вітаюцца!

budzma.org

# СКАРЫНАЎСКАЯ БІБЛІЯТЭКА РЭКАНСТРУЮЕ ПАМЯШКАННЕ ДЛЯ НОВАГА МУЗЕЯ АДРАДЖЭННЯ



Скарынаўская бібліятэка пачынае рэканструкцыю аднаго са сваіх памяшканняў, у якім размесціцца новы Музей Адраджэння.

Ён будзе апавядаць пра беларускую гісторыю і культуру з канца 19-га стагоддзя і да сённяшніх дзён.

Экспанаты музея будуць выстаўленыя не толькі ў адрэканструяванай зале, але і ў віртуальнай прасторы.

Запрашаем усіх нашых сяброў і добразычліўцаў далучыцца да гэтага амбітнага праекту.

Вы можаце:

• падтрымаць нас фінансава (дэталі можна знайсці тут);

• перадаць экспанаты для музэея;

• алічбоўваць дакументы;

• прафесійна фатаграфаваць экспанаты;

• рэдагаваць артыкулы для вэб-сайта музея;

• паўдзельнічаць у будаўніцтве, прыборцы;

• знойдзецца і іншая праца.

skaryna.org

## Беларускі каляндар памятных дат на травень 2024 года

**1 траўня**
- 55 гадоў таму, у 1969-м, у Гомелі заснаваны ўніверсітэт.

**4 траўня**
- 225 гадоў таму, у 1799-м, нарадзіўся Фларыян Бохвіц, філосаф, пісьменнік. Памёр у 1856-м.
- 205 гадоў таму, у 1819-м, нарадзіўся Фларыян Міладоўскі, кампазітар, піяніст. Памёр у 1889-м.

**6 траўня**
- 120 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Паўлюк Трус, паэт. Памёр у 1929-м.
- 90 гадоў таму, у 1934-м, памёр Мікалай Вяршынін (сапр. Верамей), консул БНР у Чэхаславакіі.

**8 траўня**
- 25 гадоў таму, у 1999-м, памёр Сымон Шаўцоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі, пісьменнік.

**13 траўня**
- 145 гадоў таму, у 1879-м, нарадзіўся Янка Серада, старшыня прэзідыума Рады БНР.

**14 траўня**
- 125 гадоў таму, у 1899-м, нарадзіўся Тодар Куніцкі, лекар, адзін з заснавальнікаў Беларускага Студэнцкага Саюза ў Вільні і Беларускага Слянскага Саюза. Памёр у 1985-м.
- 85 гадоў таму, у 1939-м, памёр Павел Жаўрыд, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання.

**15 траўня**
- 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Язэп Найдзюк, выдавец, гісторык. Памёр у 1984-м.
- 45 гадоў таму, у 1979-м, у Мінску адкрыўся Музей старажытнабеларускай культуры.

**16 траўня**
- 25 гадоў таму, у 1999-м, у Таронта памёр Міхась Ганько, дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Канадзе.

**17 траўня**
- 90 гадоў таму, у 1934-м, расстраляны Алесь Салагуб, паэт.

**24 траўня**
- 120 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Адам Русак, паэт-песеннік. Памёр у 1987-м.

**26 траўня**
- 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Часлаў Ханяўка, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1988-м.
- 25 гадоў таму, у 1999-м, памерла Лідзія Ялоўчыц (у замужжы Лісок), пісьменніца.

**31 траўня**
- 100 гадоў таму, у 1924-м, памёр Канстанцін Горскі, кампазітар, скрыпач.
- 45 гадоў таму, у 1979-м, памёр Францішак Чарняўскі, каталіцкі святар, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Францыі, Бельгіі і ЗША.

**Беларусы ў свеце**
№ 4 (263), красавік 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com